**ВУЧАНІЦА БЕЛАРУСКАГА 4-ГА КЛАСА ЯСЯ МАЛАШЧАНКА**



ЗБІТА ЗА ІГНАРАВАННЕ АФІЦЫЙНАГА ГІМНА НАСТАЎНІЦАЙ МУЗЫКІ

СТАР. 2

# ВЕСНІК ПРАВААБАРОНЧЫ

№ 9 (17) 09.2013

**ЗАЯВА АЛЯКСАНДРА ВАЙЦЕШЫКА Ў СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ**

НА СУПРАЦОЎНІКА МІЛІЦЫІ ЗАСТАЛАСЯ БЕЗ УВАГІ



СТАР. 3

БАРАНАВІЦКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ


ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# СТАРШЫНЯ ПРАВААБАРОНЧАГА ЦЭНТРА “ВЯСНА” ЎГАНАРАВАНЫ ПРЭМІЯЙ ВАЦЛАВА ГАВЭЛА

Прэмія Вацлава Гавела ў галіне правоў чалавека прысуджаная зняволенаму старшыні Праваабарончага цэнтру “Вясна-” Алесю Бяляцкаму. Імя пераможцы абвясціў старшыня Парламенцкай асамблеі Рады Еўропы- Жан-Клод Міньён 30 верасня ў Страсбургу. Ён павіншаваў з узнагародай жонку праваабаронцы Наталлю Пінчук, якая прысутнічае на цэрымоніі.

Сёлета сярод намінантаў былі, акрамя Алеся Бяляцкага, аўтарытэтныя правааабарончыя арганізацыі - Асацыяцыя маладых юрыстаў (Грузія) і Rights Defence Network (Кітай).

Жонка праваабаронцы Алеся Бяляцкага Наталля Пінчук, якая прысутнічае на цэрымоніі ў Страсбургу, адзначыла, што Вацлаў Гавэл з’яўляўся духоўным настаўнікам Алеся. Незадоўга да сваёй смерці, Гавэл накіраваў Алесю ў турму ліст падтрымкі. Алесь піша вось у гэтай паштоўцы, што для яго гэты ліст стаў праменем надзеі і салідарнасці.

Наталля Пінчук таксама прамовіла, што ад самага пачатку свайго шляху Алесь змагаўся за незалежную і дэмакратычную Беларусь.

Зараз яму няпроста, ён знаходзіцца ў больш жорсткіх умовах, чым іншыя палітвязні, а ў турмах Беларусі дагэтуль яшчэ 10 палітвязняў, якія зрабілі свой выбар на карысьць дэмакратыі і свабоды. Прэмія, якую атрымаў Алесь, гэта знак салідарнасці ня толькі з ім, але і з усёй беларускай дэмакратычнай супольнасцю.

Як паведамляе сайт Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, спачатку журы прадставіла спіс з шасці кандыдатаў, сярод якіх былі названыя Людміла Аляксеева (Расія), Алесь Бяляцкі (Беларусь), Грузінская Асацыяцыя маладых юрыстаў (Грузія), Вянгерскі Хельсінскі камітэт (Венгрыя), Псіхічны цэнтр абароны інвалідаў (Венгрыя) і Сетка абароны правоў (Кітай).Беларускага праваабаронцу вылучылі больш за 30 польскіх НДА.




Наталля Пінчук на ўручэніі прэміі Вацлава Гавэла Алесю Бяляцкаму

* * *

Кіраўнік праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі асуджаны на 4,5 году турмы ў лістападзе 2011-га. Яго прызналі вінаватым у няспалаце падаткаў. Праваабаронца сваёй віны не прызнаў і заявіў, што ўсе грошы, атрыманыя на ягоныя рахункі, ішлі на праваабарончую дзейнасьць.

Падставай для крымінальнага перасьледу Бяляцкага стала інфармацыя пра банкаўскія рахункі, якую перадалі афіцыйнаму Менску Літва і Польшча.

Краіны Эўразьвязу, ЗША і міжнародныя праваабарончыя арганізацыі лічаць Бяляцкага палітвязьнем, а прысуд яму — палітычна матываваным. Яны патрабуюць ад уладаў Беларусі вызваліць праваабаронцу.

spring96.org

## FIDH і «Вясна» шчыра віншуюць Алеся Бяляцкага з высокай узнагародай




Міжнародная Федэрацыя за правы чалавека (FIDH) Праваабарончы цэнтр «Вясна»

Алесю Бяляцкаму прысуджана прэстыжная праваабарончая прэмія імя Вацлава Гаўла

Савет Еўропы абвясціў аб прысуджэнні праваабарончай прэміі імя Вацлава Гаўла за 2013 год Алесю Бяляцкаму - старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» і Віцэ -прэзідэнту FIDH. ПЦ «Вясна» і FIDH шчыра віншуюць лаўрэата з гэтай высокай узнагародай.

У жніўні 2011 г. вядомы беларускі праваабаронца Алесь Бяляцкі быў прыгавораны да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі за сваю праваабарончую дзейнасць.

Намеснік старшыні ПЦ «Вясна» Валянцін Стэфановіч адзначыў: «Прысуджэнне гэтай прэміі Алесю Бяляцкаму глыбока сімвалічнае. Яны сустракаліся, а за некалькі дзён да сваёй смерці Вацлаў Гавел напісаў Алесю, які ўжо знаходзіўся ў турме, ліст, у якім выказаў яму падтрымку і надзею на тое, што калі-небудзь Беларусь стане дэмакратычнай дзяржавай».

spring96.org

АДУКАЦЫЯ

# ЗА ГВАЛТОЎНЫЯ ДЗЕЯННІ АДНОСНА ВУЧАНІЦЫ 4-ГА КЛАСА НА ПРАЦЯГУ ТЫДНЯ ПРАБАЧЭННЯ НЕ ПАПРАСІЛІ

Настаўніца музыкі СШ № 14 прымяніла гвалтоўныя дзеянні да вучаніцы адзінага ў горадзе беларускамоўнага 4-га класа Ясі Малашчанка за нежаданне слухаць афіцыйны гімн. Маці дзяўчынкі Таццяна Малашчанка паведаміла, што інцыдэнт здарыўся яшчэ 13 верасня, калі настаўніца на ўроку музыкі распавядала пра афіцыйныя дзяржаўныя сімвалы.

– Мая дачка заявіла, што лічыць цяперашні гімн дрэнным, бо ў ім не спяваецца пра Бога, і назвала сваім гімнам спеў «Магутны Божа». А калі настаўніца пачала спяваць цяперашні гімн, то Яся закрыла вушы рукамі. Зусім нечакана настаўніца накінулася на Ясю і пачала адцягваць яе рукі ад вушэй і біць па руках, – паведаміла Таццяна Малашчанка.



Яся Малашчанка грае на флейце на адкрыцці турыстычнай аграсядзібы "Ліцьвінаў кут"

Мама вучаніцы дадала, што калі ж даведзеная да слёз дзяўчынка паспрабавала выйсці з кабінета, то настаўніца пачала здзіраць з яе заплечнік, працягваючы біць па руках.

З моманта здарэння ўжо прайшло больш за тыдзень, але ніхто з адміністрацыі школы і нават настаўніца так і не папрасілі прабачэння ні ў Ясі, ні ў сям'і Малашчанкаў.

Сям'я Малашчанкаў вядомая ў Баранавічах не толькі тым, што раней мела невялікую гандлёвую краму "Вадзянік", але і стварэннем у горадзе адзінага беларускамоўнага класа.

Яся Малашчанка пакуль не ходзіць на ўрокі музыкі.

Вітусь Свабодскі

ФЕМІДА

# СУПРАЦОЎНІК МІЛІЦЫІ НЕ ЖАДАЕ СВЕДЧЫЦЬ ПА СПРАВЕ УЛАДЗІМІРА ЛАБКОВІЧА

Сведка-міліцыянт, які затрымліваў праваабаронцаў "Вясны" Уладзіміра Лабковіча і Таццяну Рэвяку падчас раздачы інфармацыйных матэрыялаў пра палітвязня Алеся Бяляцкага, 30 верасня ў чарговы раз не з'явіўся на судовае паседжанне.

Перагляд адміністратыўнай справы перанесены на 7 кастрычніка і пачнецца а 9-й раніцы.

Першы перагляд пастановы суда Цэнтральнага раёна, які пакараў праваабаронцу штрафам у тры мільёны рублёў, быў прызначаны на 18 верасня. У той дзень супрацоўнік міліцыі Смаляк, які мусіў прысутнічаць на паседжанні ў якасці сведкі, у суд не з'явіўся. Таму перагляд справы быў перанесены на 30 верасня.

Калі сёння Уладзімір Лабковіч з'явіўся у суд, то высветлілася, што сведка Смяляк ізноў на паседжанне не прыйшоў. Як паведаміў праваабаронцу суддзя, міліцыянт даслаў даведку пра тое, што знаходзіцца ў адпачынку.

Уладзімір Лабковіч абураны гэтай сітуацыяй і па-ранейшаму лічыць, што супрацоўніка міліцыі варта прыцягнуць да адказнасці за непавагу да суду, бо знаходжанне ў адпачынку не вызваляе таго ад абявязку з'явіцца ў суд.

Нагадаем, Уладзімір Лабковіч абскардзіў у Мінскі гарадскі суд пастанову пра штраф ад 6 жніўня 2013 года, вынесеную на падставе часткі 1 артыкула 23.34 КаАП ("парушэнне парадку арганізацыі і правядзення масавага мерапрыемства") суддзёй Савецкага раёна Дзмітрыем Паўлючэнкам. Касацыйная інстанцыя пастанавіла скасаваць гэтую пастанову, накіраваўшы справу ў суд Савецкага раёна на перагляд да новага суддзі.

spring96.org

## Беларускія палітвязні — у шорт-лісце прэміі Сахарава «За свабоду думкі»



30 верасня стаў вядомы кароткі спіс прэтэндэнтаў на Прэмію «За свабоду думкі» імя Андрэя Сахарава. Сярод прэтэндэнтаў на прэмію у Камісіі па замежных справах Эўрапарламэнта былі названыя беларускія палітвязні Алесь Бяляцкі, Эдуард Лобаў і Мікалай Статкевіч, а таксама Эдвард Сноўдэн (ЗША) і пакістанская школьніца-праваабаронца Малала Юсуфзай.

Нагадаем, што кандыдатуру беларускай апазіцыі намінаваў еўрадэпутат ад Польшчы Марэк Мігальскі разам з Яцэкам Пратасевічам і Філіпам Качмарэкам.

Канчатковы пераможца будзе абвешчаны 10 кастрычніка старшынямі ўсіх дэпутацкіх груп, якіх у Эўрапарламенце сем. Урачыстае ўручэньне прэміі адбудзецца ў Страсбуры 20 кастрычніка.

Прэмія імя Сахарава, заснаваная ў 1998 годзе, мае грашовую вартасць у 50 тысяч еўра і з'яўляецца галоўнай узнагародай Эўразвязу ў галіне правоў чалавека.

Раней прэмію Сахарава атрымлівалі кіраўнік руху «За свабоду» Аляксандр Мілінкевіч і Беларуская асацыяцыя журналістаў.

Аналагічнай па назве прэміяй міра імя Андрэя Сахарава Алесь Бяляцкі быўуганараваны Нарвежскім Хельсінскім камітэтам у 2006 годзе.

spring96.org

ФЕМІДА

# СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ НЕ РЭАГУЕ НА НЕЗАКОННЫЯ ДЗЕЯННІ СУПРАЦОЎНІКА МІЛІЦЫІ

Актывіст свабоднага прафсаюза РЭП Аляксандр Вайцешык атрымаў з Баранавіцкага міжраённага аддзела Следчага камітэту РБ пастанову аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы супраць супрацоўніка міліцыі Парашкова А.М. па факце бяздзеяння ў пытанні рэгістрацыі заявы, якая паступіла ад яго па лініі “102”.

14 жніўня грамадскі актывіст звярнуўся з адпаведнай заявай у СК, у якой указаў, што ўчастковы міліцыянер Ю.Г. Нізавец 27 чэрвеня праводзіў яго незаконнае затрыманне. Але грамадскі актывіст паспеў патэлефанаваць па спецлініі “102” і паведаміць не толькі пра супрацьпраўныя дзеянні, але і аб пагрозах супрацоўніка міліцыі ў яго адрас. Пры гэтым сп. Вайцешык настойваў на рэгістрацыі яго паведамлення ў “Адзінай кнізе Аддзела ўнутраных спраў”.



Аляксандр Вайцешык перад будынкам суда Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы

Пры разглядзе справы супраць Вайцешыка ў жніўні суддзя Мікалай Кміта апраўдаў грамадскага актывіста. На судзе нечакана высветлілася, што паведамленне Вайцешыка на “102” не было зарэгістравана. Таму прафсаюзны актывіст звярнуўся ў СК з заявай аб прыцягненні да адказнасці супрацоўніка міліцыі А.М. Парашкова, які павінен быў гэта зрабіць.

Пастанову аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы ад 16 верасня падпісаў старэйшы следчы Баранавіцкага міжраённага аддзела Следчага камітэту РБ М.В. Чыкін. У яго лісце паведамляецца, што следчы СК на працягу месяца па невядомых прычынах “не змог” знайсці заяўніка Аляксандра Вайцешыка, а аўдыёзапіс тэлефонных размоў ад 27 чэрвеня знішчаны. Следчы СК таксама “не змог” знайсці аператыўнага дзяжурнага Баранавіцкага ГАУС Парашкова А.М., які нібыта выехаў за межы Беларусі. СК зноў жа “не змог” на працягу месяца атрымаць раздрукоўку ўваходных тэлефонных размоў абанентнага нумара “102” ад раённага вузла электрасувязі філіяла РУП “Белтэлеком” г. Баранавічы.

– Думаю, што ніякай праверкі па маёй заяве і не было. Яны мне нават не даслалі позву, а чамусьці размаўлялі па тэлефоне з малалетнім сынам. Верагодна, СК імкнецца апраўдаць міліцыянера, а мяне ўцягнуць у бессэнсоўную перапіску з чыноўнікамі, – пракаментаваў А. Вайцешык.

Грамадскі актывіст абураны такой “эфектыўнай” працай Следчага камітэту і лічыць, што дзяржаўны орган свядома адмаўляецца праводзіць праверку па сутнасці справы, а імкнецца стварыць бюракратычную цяганіну і наогул забыцца пра яго заяву.

spring96.org

ГРАМАДСТВА

# ГАРАДСКАЯ ЎЛАДА ЗАБАРАНІЛА ПІКЕТ СУПРАЦЬ ЗБЯДНЕННЯ СЕМ’ЯЎ, ЯКІЯ ГАДУЮЦЬ ДЗЯЦЕЙ

Баранавіцкі гарвыканкам забараніў пікет супраць збяднення сем’яў, якія гадуюць дзяцей. У лісце, за подпісам намесніка старшыні гарвыканкама, на імя актывіста гарадскога прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці Рыгора Грыка паведамляецца, што ўлада не дае згоды на правядзенне пікету, згодна з рашэннем гарвыканкама ад 16.06.2009 г. № 1497 “арганізатары масавага мерапрыемства незалежна ад колькасці удзельнікаў абавязаны заключыць дамовы”.

– Мы гэта добра ведаем. Але заключыць дамовы з ЖКГ, паліклінікай і міліцыяй становіцца проста немагчыма. Таму ў заяве паведамлялася, што актывісты РЭП самастойна забяспечаць грамадскі парадак падчас пікету, прыбяруць тэрыторыю ад смецця і аплацяць выдаткі па медычнаму абслугоўванню пікета ў 10-ці дзённы тэрмін пасля правядзення мерапрыемства. Але ў нас забараняюць правядзенне пікетаў ці мітынгаў як з дамовамі, так і без іх.

Цэны на тавары і паслугі сістэматычна растуць, – паведаміў Рыгор Грык.

Таму Рыгор Грык мае намер падаваць новую заяву на пікет, каб нагадаць уладам, што трэба часцей звяртаць увагу на людзей.

Сяргей Востраўскі

## Праваабаронцы абвяшчаюць Тыдзень супраць смяротнага пакарання

З 5 па 10 кастрычніка Праваабарончы цэнтр “Вясна” ладзіць “Тыдзень супраць смяротнага пакарання”, насычаны мерапрыемствамі і інфармацыяй адносна набалелай праблемы, якую ўздымаюць праваабаронцы ў беларускім грамадстве.

Цягам тыдня праваабаронцы запланавалі шэраг мерапрыемстваў. Яскравай падзеяй абяцае стаць анлайн прэзентацыя музычнага праекта “Апошні золак”, якая прыпадае на гэты час. Спробам асэнсавання смяротнага пакарання ў сусветнай рок-культуры будзе прысвечаны выпуск падкаста “Рок – за правы чалавека”. Распачне працу тэматычны інтэрнэт-рэсурс, дзе будзе акумулявацца ўся інфармацыя па праблеме смяротнага пакарання - інтэрв’ю і аналітычныя публікацыі, фота- і відэаматэрыялы.

## Пададзена чарговая заяўка на правядзенне пікету супраць збяднення людзей

Грамадскі актывіст Рыгор Грык 16 верасня падаў у гарвыканкам новую заяву на правядзенне пікету. У заяве адзначаецца, што па ініцыятыве Міжнароднай арганізацыі працы ўжо некалькі гадоў запар у кастрычніку праводзіцца сусветны дзень за годную працу і адпаведны заробак.

– Паколькі ў нашай дзяржаве цяпер пагаршаецца матэрыяльнае становішча працоўных і пенсіянераў, то гэтым пікетам хачу выказаць пратэст супраць росту цэнаў на тавары, шматлікія паслугі і збядненне людзей, – паведаміў Рыгор Грык.

spring96.org

## У Баранавічах міліцэйскія кадры збягаюць




Дзеля забеспячэння грамадскага парадку ў Баранавічах з 1 кастрычніка патруляваць гарадскія вуліцы пачне рота патрульна-паставой службы ўнутраных войскаў.

У горадзе цяпер востра адчуваецца недахоп патрульна-паставых міліцыянераў. У цяперашні час у склад патрульна-паставой службы міліцыі ўваходзяць 70 супрацоўнікаў, а для поўнай камплектацыі неабходна яшчэ 12.

– Цяпер з Баранавічаў не толькі рабочыя і спецыялісты ўцякаюць у Расію за больш доўгім рублём, але і супрацоўнікі праваахоўных органаў. У нас вельмі шмат чыноўнікаў-бюракратаў у пагонах, якія пільна сочаць за прадстаўнікамі грамадзянскай супольнасці. Але відавочна, што цяпер дакладна не хапае тых супрацоўнікаў міліцыі, хто канкрэтна змагаецца са злачынствам і забяспечвае парадак на вуліцах горада, – паведаміў супрацоўнік міліцыі, які пажадаў застацца невядомым.

spring96.org

ФЕМІДА

# АБ'ЯДНАННЕ БАРАНАВІЦКІХ УКРАІНЦАЎ "КАБЗАР" СУДЗІЦЦА ЗА МАГЧЫМАСЦЬ АТРЫМАЦЬ ПАМЯШКАННЕ

Грамадскі актывіст Мікалай Чарнавус 19 верасня падаў ў суд Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы скаргу на дзеянні начальніка ўпраўлення эканомікі гарвыканкама Раісы Уласовіч.

У скарзе Мікалай Чарнавус даводзіць, што неаднаразова звяртаўся ў Баранавіцкі гарвыканкам і Брэсцкі аблвыканкам, каб атрымаць памяшканне для грамадскага аб'яднання баранавіцкіх украінцаў "Кабзар". Спачатку гарвыканкам выдзеліў памяшканне (вул. Савецкая, д.60), але потым хутка адмовіўся ад папярэдняга рашэння.



– На афіцыйным сайце Баранавіцкага гарвыканкама размешчана інфармацыя, што ў горадзе шмат вольных памяшканняў. Але цяпер на ўсе мае просьбы аб выдзяленні памяшкання для ГА "Кабзар" з мэтаю атрымання юрыдычнага адрасу нам адказваюць, каб мы заплацілі 2 млн. рублёў і ўдзельнічалі ў аўкцыёне, – адзначыў Мікалай Чарнавус.

Грамадскі актывіст лічыць, што гэта вельмі вялікія грошы, напрыклад, на Украіне прадстаўнікі беларускіх грамадскіх арганізацый плацяць за арэнду проста сімвалічную суму: адну грыўну (усяго 1 тыс. бел. рублёў).

На чарговы зварот сп. Чарнавуса ў мясцовы гарвыканкам начальнік ўпраўлення эканомікі Раіса Уласовіч 7 жніўня 2013 года зноў адказала, каб ГА "Кабзар" удзельнічаў ў аукцыёне, нягледзячы на тое, што ў горадзе вельмі шмат вольных памяшканняў.

Мікалай Чарнавус прасіць суд абавязаць Баранавіцкі гарвыканкам выдзяліць адно з вольных памяшканняў для ГА "Кабзар".

Сяргей Законнікаў

ІНІЦЫЯТЫВА

# У БАРАНАВІЧАХ ПРАПАНУЮЦЬ УВЕСЬЦІ ПАДАТАК 1% АД ЗАРОБКУ НА МЭДЫЦЫНУ

Баранавіцкія ўлады прапагандаваць ідэю ўвядзеньня абавязковай платы за медабслугоўваньне.

Раней старшыня гарвыканкаму Віктар Дзічкоўскі прапаноўваў зрабіць платным уваход у паліклінікі. Цяпер ідэю вылічваць грошы з заробкаў на мэдыцыну агучылі ў мясцовым унівэрсытэце, перадае радыё Свабода.

Ідэю вылічваць 1% ад заробку ў якасьці падатку на мэдыцыну выказалі ў сваім праекце маладыя навукоўцы Баранавіцкага ўнівэрсытэту. Гэты праект прапанаваны ў межах БРСМаўскай выставы ідэяў і мае, на думку навукоўцаў, зьменшыць выдаткі дзяржбюджэту на мэдыцыну.

Стала вядома, што праект падтрымаў дэпутат парлямэнту з Баранавіч Аляксандар Сьцяцко, які паабяцаў маладым актывістам, што іхняя




прапанова будзе разгледжана ў Нацыянальным сходзе.

У інтэрнэце адразу ж разгарэліся дыскусіі. Інтэрнаўты абсьмяялі вынікі дасьледаваньня баранавіцкіх навукоўцаў, якія апыталі ўсяго 300 чалавек, сярод якіх 98% выказаліся на карысьць платнай мэдыцыны, а 70% ужо гатовыя плаціць падатак на мэдычнае абслугоўваньне.

Баранавіцкі грамадзкі дзеяч, былы выкладчык Віктар Сырыца лічыць увядзеньне падатку на мэдыцыну абсурдным

«Цэны ў нас растуць, як грыбы пасьля цёплага дожджыку, людзі хутка бяднеюць, а тут яшчэ дадатковы падатак на мэдыцыну. Гэты падатак ударыць не па чыноўніках, чый заробак за лета вырас на 40 адсоткаў, а гэты падатак ударыць найперш па малазабясьпечаных. Катэгарычна супраць!»

belaruspartisan.org

**"ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК"** Баранавіцкі інфармацыйны праваабарончы бюлетэнь

**Калі парушаны вашыя правы, маеце пытанні, заўвагі ці прапановы - звяртайцеся.**
Дапамога бясплатная. Нашы кантакты: тэл. 8 029 7220957, e-mail: viasna_bar@tut.by

Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 299 асобнікаў

веснік ПРАВААБАРОНЧЫ